


Інфармацыйны бюлетэнь

# Ахова птушак Бацькаўшчыны

№ 3 (30) • 2007







## Тэмы нумара:



На поўначы нашай краіны, у краі, які носіць назву "Беларускае Паазер'е", у адносна некранутым стане яшчэ захавалася не менш за дзесятак верхавых альбо, як іх называюць, тарфяных балот. Назву гэтую, як лёгка здагадацца, яны атрымалі за тое, што пад іх паверхняй утрымліваецца магутная тарфяная залеж, якая паволі, тысячагоддзямі, не больш за палову міліметра ў год, утвараецца з адмерлых частак балотных раслін.

Самае прыкметнае з беларускіх "верхавікоў" - балота Ельня, якое месціцца на тэрыторыі аж двух раёнаў - Міёрскага і Шаркаўшчынскага, і па сваёй даўжэйшай частцы дасягае амаль трыццаці кіламетраў. Гэта дакладна самае буйное верхавое балота Беларусі і адно з буйнейшых у Еўропе.

Зараз на выснове апошніх навуковых даследванняў вучоныя без перабольшвання называюць балоты "легкімі Еўропы", і балоты сапраўды, нават у сваім сучасным знявечаным выглядзе, усё яшчэ паспяхова выконваюць гэтую ролю...

Увогуле Ельня - гэта нават не проста балота, а сапраўдны азёрна-балотны комплекс, дзе сярод бязмежных махавых прастораў і парослых векавымі дрэвамі мінеральных выспаў раскінулася некалькі дзесяткаў вялікіх, маленькіх і зусім драбнюткіх маляўнічных, быццам казачных, азёр.

*(Працяг глядзі на с.6)*

# Праграма X З'езду грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны"

## 24 лістапада 2007 года (субота). г.Мінск, Вул. Макаёнка 8, РЭЦДіЮ

| | |
|---|---|
| 9.00-10.00 | Рэгістрацыя ўдзельнікаў, аплата сяброўскіх узносаў. Выдача картак удзельнікам конкурсу. |
| 10.00-10.30 | Адкрыццё з'езду. Вітанні ад прадстаўнікоў арганізацый-партнёраў АПБ. |
| 10.30-11.30 | Справаздача Цэнтральнага Савета АПБ.<br>Фінансавая справаздача бухгалтара.<br>Справаздача Рэвізійнай камісіі.<br>Прадстаўленне асноўных накірункаў дзейнасці АПБ на 2008 год.<br>Прадстаўленне праекту Рэзалюцыі. |
| 11.30-12.30 | Выбары сябраў ЦС, Старшыні АПБ, Рэвізійнай камісіі. |
| 12.30-13.00 | Перапынак на каву. |
| 13.00-13.10 | Абвяшчэнне вынікаў выбараў. |
| 13.10-13.40 | Узнагароджванне пераможцаў конкурсаў АПБ. |
| 13.40-14.20 | Даклады:<br>Вялікая белая чапля - птушка 2008 года /Р. Шайкін.<br>Тэрыторыя, важная для птушак "Ельня". Гісторыя выратавання / С. Зуёнак. |
| 14.20-15.50 | Абед. Абмеркаванне накірункаў развіцця АПБ, рэзалюцыі, агляд выставаў малюнкаў і фотаздымкаў. Удзел у конкурсе.<br>Птушкі Дамініканскай Рэспублікі (слайд-шоў) /Ларс Лахман. |
| 15.50-17.10 | Даклады:<br>Клуб200 - дзейнасць і вынік / С. Левы.<br>Сінантропныя совы - досвед даследавання і аховы на Берасцейшчыне/ В. Пракапчук.<br>Агульна-польскае таварыства аховы птушак (ОТОР) - 16 год працы па ахове птушак і іх асяроддзя / Изабела Флор.<br>Вядомы невядомы баталён/ Наталля Карліонава. |
| 17.10-17.40 | Кароткія паведамленні:<br>Маніторынг звычайных птушак у Беларусі / Д. Жураўлёў.<br>Новыя ТВП Беларусі / С. Зуёнак.<br>Паведамленні рэгіянальных аддзяленняў. |
| 17.40-18.10 | Заключная частка. Падвядзенне выніку конкурсу для ўдзельнікаў З'езду і латарэі для кіраўнікоў арганізаваных груп . Унясенне паправак і дапаўненняў. Зацвярджэнне асноўных накірункаў дзейнасці і прыняцце рэзалюцыі. Закрыццё З'езду. |
| 19.00-23.00 | Урачыстая вячэра. |

Для сябраў АПБ, каму ўжо ёсць 18 гадоў: колькасць удзельнікаў урачыстай вячэры абмежавана, калі Вы маеце намер прыняць у ёй удзел - просьба зарэгістравацца загадзя і па магчымасці ўнесці за вячэру 15000 руб.

Калі Вам неабходна гасцініца (9000 руб.) - паведаміце ў сакратарыят АПБ да 15 лістапада.

**Патрабуюцца валанцёры!**
**Просьба да сябраў АПБ, якія пражываюць у Мінску: для арганізацыі і правядзення З'езду АПБ патрабуюцца валанцёры. Паведаміце ў офіс АПБ, калі Вы жадаеце і можаце дапамагчы!**

# Увага! Выбары

У лістападзе 2007 года заканчваецца тэрмін паўнамоцтваў наступных сябраў выбарных органаў АПБ: Старшыні АПБ Іваноўскага У.В., сябраў Цэнтральнага Савету Грычыка В.В., Вінчэўскага Дз.Я, Чэркаса М.Д., Ясевіча А.М., Нікіфарава М.Я., Пінчука П.В., Парэчынай Н.І., сябраў Рэвізійнай камісіі Жураўлёва Дз.В., Бабушнікавай А.П., Якаўца М.М. Працягваецца тэрмін паўнамоцтваў сябраў Цэнтральнага Савету Абрамчука А.В., Пракоф'евай С.Г.

Нагадваем, што ў адпаведнасці са Статутам АПБ, кандыдатуры Старшыні, а таксама сябраў Савета для галасавання на З'ездзе могуць вылучацца Цэнтральным Саветам АПБ, альбо не менш чым 10 сябрамі АПБ, якія маюць актыўнае выбарчае права.

На паседжанні Цэнтральнага Савета АПБ 19 кастрычніка 2007 года былі вылучаны наступныя кандыдатуры:

На пасаду Старшыні АПБ: Іваноўскі У.В.

На пасады сябраў Цэнтральнага Савета АПБ: Вінчэўскі Дз.Я., Казулін А.В., Карліонава Н.В., Нікіфараў М.Я., Парэчына Н.І., Пінчук П.У., Пракапчук В.В.

На пасады сябраў Рэвізійнай камісіі: Бабушнікава А.П., Валасюк С.С., Грычык В.В., Жураўлёў Д.В., Чэркас М.Д.

Калі Вы хочаце вылучыць на адну з выбарных пасад іншыя кандыдатуры, просім даслаць у Сакратарыят прапановы, падпісаныя не менш чым 10 сябрамі АПБ з актыўным выбарчым правам (актыўнага выбарчага права не маюць сябры АПБ, якія не дасягнулі 16 гадоў, замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства). Каб падрыхтаваць працэдуру галасавання, прапановы ад сябраў АПБ павінны быць атрыманыя Сакратарыятам не пазней, чым 16 лістапада 2007 года.



Фота Дз. Якубовіча

# Вялікая белая чапля - птушка 2008 года!

Вялікая белая чапля (Egretta alba) абрана Цэнтральным Саветам АПБ птушкай 2008 года. Гэты від атрымаў большасць галасоў сярод чатырох кандыдатаў на гэтую "пасаду": поплаўны лунь, сокал-пустальга, свіргуль і вялікая белая чапля.На сёняшні дзень гэты прыгожы від птушак магчыма сустрэць па ўсёй краіне і штораз часцей. Аднак, ня гледзячы на тое, што від занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі, зарэгістраваны шматлікія выпадкі незаконнага забойства птушак, асабліва ў рыбгасах.

Конкурсы і акцыі, звязаныя з кампаніяй "Вялікая белая чапля - Птушка 2008 года " будуць вызначаны пазней і прадстаўлены як на нашым сайце, так і ў інфармацыйных бюлетэнях АПБ.

# «Птушка года» упершыню на манеце

Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь 16 жніўня 2007 г. выпусціў ў абарачэнне першыя памятныя манеты новай серыі "Птушка года" "Звычайны салавей": срэбную - наміналам 10 рублёў; і медна-нікелевую - наміналам 1 рубель.




На рэверсе манеты размешчаны: уверсе - рэльефны відарыс Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь, у цэнтры - выява маленькай птушкі на далонях рук, пад ёй указаны год чаканкі. На аверсе манеты размешчана рэльефная выява звычайнага салаўя, які сядзіць на галінцы.

# Тураўскае балонне было "у адным кроку" ад знішчэння

28 мая 2007 года Жыткавіцкі райвыканкам не даў дазвол на будаўніцтва дамбы на ТВП Тураўскае Балонне (Туровский луг), якое хацелі пачаць у рамках рэалізацыі дзяржпраграмы супрацьпаводкавай абароны. Такое рашэнне стала магчымым дзякуючы аператыўнаму аб'яднанню высілкаў АПБ, мясцовай грамадскасці і ўладаў, прыродаахоўных праектаў і прыцягненню ўвагі да праблемы захавання гэтага ўнікальнага месца ў натуральным выглядзе. Пярліна прыроды Беларусі, адно з самых значных месцаў гнездавання кулікоў і адпачынку пад час міграцый водна-балотных птушак знаходзілася пад пагрозай частковага знішчэння - дамба вышынёй 4(!) метры рассекла б поплаў на дзве часткі.

# Тарфянікі не будуць гарэць

ПРААН сумесна з Міністэрствам лясной гаспадаркі на падставе рэкамендацый Белдзяржэкспертызы ўзгаднілі і зацвердзілі будаўніцтва канструкцый для правядзення паўторнага забалочвання на 4 з 17 праектных тэрыторый:

«Міранка» (Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці), «Дакудаўскае» (Лідскі раён Гродзенскай вобласці), «Галое» (Чэрвенскі раён Мінскай вобласці), «Барценіха» (Валожынскі раён, Мінскай вобласці).

Будаўнічыя праекты распрацаваны так, каб найлепш аднавіць натуральны гідралагічны рэжым на пашкоджаных балотах, стварыць адпаведныя ўмовы для балотнай флоры і фауны, зменшыць магчымасць узнікнення тарфяных пажараў, зменшыць выкіды $CO_2$ ў атмасферу.

# Створана новае аддзяленне АПБ

12 ліпеня было зарэгістравана Барысаўскае раённае аддзяленне АПБ - 11 аддзяленне нашай арганізацыі. Старшынёй Савета абраны Сямён Левы (спецыяліст АПБ па развіццю арганізацыі, каардынатар Клубу200). Запрашаем усіх сяброў горада і раёна да сумеснай працы і развіцця новага аддзялення.

## 100 видов за 9 часов - не предел!

Подведены итоги 4-го открытого чемпионата Беларуси по спортивной орнитологии, который состоялся 8 сентября. В нынешнем году в соревнованиях участвовало 13 команд.

Впервые командам-участникам, причем сразу трем, удалось преодолеть рубеж в 100 видов.

Победителем чемпионата стала команда «Peregrinus», которая за 9 часов отметила 106 видов птиц. Этот коллектив уверенно становится победителем или призером на протяжении всех чемпионатов. Маршрут команды проходил по Березовскому району. Члены команды отметили выводок черноголовых чеканов (третий случай на территории страны).

Второе место у команды «Dreamteam» - 101 вид птиц. Птиц участники наблюдали в районе г. Гродно. Команда встретила кобчика (редкий сокол, занесенный в Красную книгу Республики Беларусь).

Отстав всего на 1 балл, третье место заняла команда «Aquila» - 100 видов. Самые интересные виды: мородунка (очень поздняя регистрация), иволга (обычно в это время иволги уже на юге), чеграва (редкий залетный вид). Маршрут команды проходил в окрестностях рыбхоза «Волма» в Минской области.

«Слуцкие соловушки» и «Alcedo» своим примером доказали, что в чемпионате можно участвовать передвигаясь и пешком, что также произошло впервые.

Маршруты команд были проложены в Брестской, Гродненской, Гомельской, Минской областях и г. Минске. Кроме представителей Швеции - Хокана Ёртмана и Леннарта Карлсона, участвовавших уже четвертый раз в гонках, в этот раз впервые были гости из Великобритании и Литвы. Уникальные природные комплексы нашей страны с их богатым пернатым миром все чаще привлекают внимание орнитологов и любителей природы других стран, которые приезжают к нам не пострелять, а понаблюдать за белорусскими птицами!

Полный список увиденных птиц всеми командами за время чемпионата можно посмотреть на нашем сайте: www.ptushki.org

Руслан Шайкин,
специалист по экологическому образованию

| Месца і назва каманды | Склад каманды | Віды |
|---|---|---|
| 1. «Peregrinus» | Абрамчук Андрэй (капітан)<br>Пракапчук Вадзім<br>Абрамчук Сяргей<br>Кіцель Дзяніс | 106 |
| 2. «Dreamteam» | Хокан Ёртман (Швецыя) (капітан)<br>Леннарт Карлссон (Швецыя)<br>Вінчэўскі Дзьмітры<br>Табуноў Дзяніс | 101 |
| 3. «Aquila» | Левы Сямён (капітан)<br>Лукшыц Воля<br>Дамброўскі Валерый<br>Міндлін Генадзь | 100 |
| 4. «Белазор» | Сербун Аляксандр (капітан)<br>Сідарук Сяргей<br>Мініч Аляксандр<br>Бакур Юры | 83 |
| 5. «Любань» | Нефідовіч Анатоль (капітан)<br>Дземідовіч Ф.<br>Рак Аляксандр<br>Янкевіч Юры | 73 |
| 6. «Rallus» | Кальчанка Алег (капітан)<br>Кальчанка Ала<br>Ліхван Віктар<br>Шкабара Раман | 72 |
| 7. «ВКЛ» | Вінчэўскі Аляксандр (капітан)<br>Чапенас Кястуціс (Летува)<br>Загорская Марына<br>Вінчэўскі Мікалай | 70 |
| 8. «Белая трясогузка» | Гулеўскі Жорж (капітан)<br>Гулінскі Мікалай<br>Гайко Віталь<br>Вінчэўская Алена | 69 |
| 9. «Тупік» | Сліж Яўген (капітан)<br>Смыкоўская Тацяна<br>Гроцкая Аліна<br>Гаўрусік Уладзіслаў | 64 |
| 10. «Alcedo» | Гарошка Зінаіда (капітан)<br>Шапавалаў Аляксей<br>Карліонава Таццяна<br>Бусургіна Воля | 63 |
| 11. «DBC» (Diplomatic birding club) | Фенчук Віктар (капітан)<br>Карповіч Збігнеў (Вялікабрытанія)<br>Танкард Мелані (Вялікабрытанія)<br>Карліонава Наталля | 61 |
| 12. «Вікторыя» | Шайкін Руслан (капітан)<br>Яковіч Віталь<br>Гардзіенка Юлія<br>Курэц Алена | 51 |
| 13. «Слуцкія саловушкі» | Мілянцей Галіна (капітан)<br>Мілянцей Віктар<br>Каляда Тамара<br>Валетка Марына | 47 |

## Зоологические четверги: 2007-2008

Начинается новый сезон "Зоологических четвергов" (ЗЧ). Темы ЗЧ на ноябрь 2007 - апрель 2008 гг.:

**1 ноября -** Фенчук В.А. «Экспедиция в Африку по поиску вертлявой камышевки».

**6 декабря -** Пинчук П.В., Карлионова Н.В. «Туровская станция кольцевания птиц. Итоги года».

**10 января -** Якович В.А. «Птицы города Минска».

**7 февраля** Шайкин Р.В. «Пустельга в поселке Мачулищи. Проблемы и перспективы охраны» и Минич А., Кивачук А. «Изучение и охрана пустельги в г.Бресте».

**6 марта -** Вінчэўскі Дз.Я. «Нашы поплаўныя луні дома і ў Афрыцы».

**3 апреля** Зуёнок С.В. «Колония бакланов и цапель «Устье Лани». История, настоящее и будущее».

Приглашаем всех желающих! Как и прежде, встречи будут проходить в здании Республиканского экологического центра детей и юношества (г. Минск, ул. Макаёнка 8; 300м от ст. метро Московская). Начало всех ЗЧ в 17-00. Куратор ЗЧ Геннадий Миндлин.

## Первые итоги Международных дней наблюдений за птицами в Беларуси

Во время Международных дней наблюдений за птицами в нынешнем году белорусские наблюдатели отметили 24 872 птицы, относящиеся к 112 видам. Самыми наблюдаемыми птицами стали: скворец - 3055 особей; серый журавль - 2723 особи; галка - 2122 особи. В наблюдениях приняли участие 606 человек. Наиболее активными были жители Шумилинского, Кобринского, Мядельского районов, а также городов Гродно, Жодино, Минск.

Полные результаты Международных дней наблюдений за птицами будут известны после обработки присланных Вами анкет и напечатаны в следующем номере бюллетеня и на нашем сайте.

## “Соловьиные ночи” состоялись

Несмотря на то, что акция в нашей стране проходила впервые, подобная ей наверняка войдет в традицию ежегодных учетов соловьев. Ведь соловей является самым ярким и узнаваемым певцом пернатого мира. Кроме того, соловей может выступать индикатором состояния окружающей среды наших больших и малых городов и деревень.

В Минске площадка по наблюдению за соловьями располагалась в Центральном ботаническом саду. Послушать соловьев пришли более 1700 минчан и гостей столицы. Такого результата никак не ожидали организаторы акции. Но день был очень теплым. Да и площадка располагалась в людном месте, где по обеим сторонам дороги пели соловьи.

В офис АПБ поступило 64 звонка от минчан. Кроме того, звонили и из других мест: Лепельский, Молодечненский, Ошмянский, Логойский районы, Гомель, Борисов. Силами любителей в Минске насчитали 252 поющих соловья.

В Новогрудском районе учтено 179 соловьев, в самом городе - 14. На наблюдательной площадке присутствовало 64 человека.

В Слониме посетило площадку 123 человека. Учтен 41 соловей. Организаторы акции решили отметить людей, которые учитывали соловьев парами, и все они получили отдельные призы.

Массово прошли учеты соловьев в городе Слуцке. Всего учтено 258 поющих самцов. Поступило 110 сообщений по телефону о местах пения соловьев. Местная пресса представила наблюдения за соловьями как экскурсии для влюбленных.

В Бресте поступило более 30 звонков. В акции участвовало более 40 человек. В пределах городской черты г. Бреста учтено 214 соловьев. С учетом окрестностей Бреста - около 300.

В Шумилинском районе любители птиц насчитали 679 соловьев. А в самом Шумилино - 224. В городе учитывали 37 человек, в районе - 193.

В Микашевичах учтено 107 соловьев. В Сенненском районе отметили 673 соловья.

В Жодино учли 44 поющих самца. Членами клуба АПБ "Крылатый дозор" составлена подробная карта города с отметками всех мест пения соловьев.

Основной учет соловьев в Логойске проводился 26 мая силами 6 человек. Всего было учтено 133 самца.

**Итоги всей кампании “Соловей - птица 2007 года”, в том числе результаты конкурсов, читайте в следующем номере нашего информационного бюллетеня.**

Руслан Шайкин,


“Скрытный певец” - фото В.Кощеева

## Адбыўся пазачарговы З'езд АПБ

14 ліпеня адбыўся пазачарговы з'езд АПБ. На з'ездзе прысутнічаў 21 чалавек, усе сябры АПБ з правам голасу, таму з'езд лічыцца правамоцным. Асноўным пытаннем з'езду было абмеркаванне змяненняў у Статуце ГА "Ахова птушак Бацькаў-шчыны". Па выніках галасавання ў Статут былі ўнесены некаторыя змяненні. Даданы пункт, што АПБ можа ажыццяўляць выдавецкую і паліграфічную дзейнасць, унесены выданні арганізацыі з тлумачэннем іх мэтаў (бюлетэні "Ахова птушак Бацькаўшчыны", "Кулён", "Вялікі кулён", "Баталён", "Размах крылаў", "Кабец", часопісы "Птушкі і мы" і "Subbuteo"). Даданы пункт аб рэдакцыйнай калегіі выданняў. Скарочаны пункт аб Клубах.

Поўную версію адноўленага Статуту АПБ магчыма знайсці на нашым сайце www.ptushki.org

## Акцыя “Сябры барадатай кугакаўкі”



Трэці год запар адбываецца акцыя па ахове дзвух найбольшых папуляцый барадатай кугакаўкі (Strix nebulosa) ў Беларусі. Спонсары акцыі - аматары соў з Нідэрландаў - Онно дэ Бруэйн і Алла Квяткоўская-дэ Бруэйн.

2 чэрвеня Целяханскую пушчу наведала чарговая экспедыцыя ў складзе Аляксандра Вінчэўскага (BirdLife International), Генадзя Міндліна (АПБ) і брытанскага калегі Джозефа Стратфорда, які жыве ў Літве. Вясна 2007 года выдалася не найлепшай для грызуноў і, адпаведна, для іх галоўных аматараў - соў. У Белавежскай пушчы, напрыклад, у гэтым годзе не знойдзена ніводнага гнязда барадатай кугакаўкі.

У Целяханах мы праверылі пяць гнёздаў, якія ўвесну былі заняты совамі. Гнёзды былі знойдзены мясцовымі жыхарамі: егерамі Аляксандрам Івановым і Віктарам Куратнікам, рабочым лясгасу Сяргеем Янковічам. Толькі ў двух з пяці выпадкаў совы здолелі вырасціць па аднаму птушаняці. У рамках акцыі мясцовыя ахоўнікі прыроды, што знайшлі паспяховыя гнёзды, атрымалі каштоўныя прызы. Птушаняты былі акальцаваны.

Добрыя навіны прыйшлі таксама з Налібокскай пушчы, дзе ў час планавай высечкі вясной было знойдзена гняздо барадатай кугакаўкі. Дзякуючы хуткай рэакцыі ляснічага Уладзіміра Мароза і яго намесніка Васіля Цітко, намаганням галоўнага ляснічага Навагрудскага лясгаса і сябра АПБ Міхаіла Мацэвіча, высечка была спынена і перанесена на час, калі птушаняты ўжо пакінуць гняздо.

Незаконны адстрэл дарослых соў уяўляе галоўную пагрозу для выжывання ключавых папуляцый гэтага рэдкага віду птушак. Мэтай акцыі “Сябры барадатай кугакаўкі”, акрамя маніторынгу папуляцый соў, з'яўляецца заахвочванне мясцовых жыхароў да аховы ўнікальнай прыроднай спадчыны Беларусі.

Аляксандр Вінчэўскі, BirdLife International
Фота аўтара.

*(Працяг, пачатак на с.1)*

Ельня - гэта край журавін і брусніц, пудовых шчупакоў і незлічоных краснагаловікаў, край гусей і жураўлеў, адно з нешматлікіх месцаў у Беларусі, дзе можна сустрэць унікальных прадстаўнікоў тундравай фауны і флоры. Для захавання ўсяго гэтага багацця, а, дакладней, яго рэшткаў, бо гэтую унікальную тэрытрыю, як і многія іншыя, не мінула "меліярацыйная ліхаманка", на Ельні створаны дзяржаўны гідралагічны заказнік.

Усе сучасныя беды нашых балот, у тым ліку і Ельні, катастрафічнае паніжэнне ўзроўню вады, усыханне навакольных лясоў, знікненне ўнікальных жывёл і раслін, змяншэнне ўраджаю журавін, тарфяныя пажары з'яўляюцца прамым вынікам некалі праведзенай меліярацыі. Аднак даследванні, падмацаваныя практычным вопытам, паказалі, што вырашыць гэтыя праблемы магчыма, на гэта спатрэбіцца нямала часу. Для таго, каб выратаваць балота, трэба, ні многа ні мала вярнуць яму ваду. І, як высветлілася сёлета на Ельні, не так ужо гэта і складана: дастаткова проста перакрыць плацінамі меліярацыйныя каналы, па якіх вада гадамі, кропля за кропляй, пакідала балота, забіраючы ў яго апошнія жыццёвыя сілы...

Менавіта такую акцыю і правялі сёлета на балоце энтузіясты-валанцёры з ліку сяброў грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" (28 чалавек з Шуміліна, Браслава, Брэста, Гродна, Кобрына, Лагойска, Мінска), супрацоўнікаў заказніка "Ельня" і проста мясцовых жыхароў-аматараў прыроды. Выключна іх сіламі пры дапамозе звычайных сякер, нажовак і рыдлёвак на балоце было пабудавана 24 плаціны, якія надзейна перакрылі асноўныя меліярацыйныя каналы на ўсім іх працягу. Ну, а што ўсе гэтыя намаганні пайшлі на карысць балоту, адразу ж падцвердзілася тым, што карэнны балотны жыхар- бабёр - аблюбаваў адну з "новавыпечаных" запруд і на свой лад падправіў плаціну, што яе падпірала. Атрымалася значна лепш чым раней. Што зробіш, у людзей гэта быў першы вопыт, а бабёр будуе плаціны ўсё жыццё.

АПБ удзячна ўсім, хто прыняў удзел у гэтай акцыіі, асабліва спонсару - кампаніі «Кока-Кола Бевериджес Беларусь».

Сяргей Зуёнак, Каардынатар па ТВП

**Волонтёры, принявшие участие в двух лагерях на Ельне:** Белошапко В., Сербун А., Лукшиц О., Куликова Е., Соловей В., Скуба С., Лашков А., Пищ Н., Царев Д., Минич А., Галиевская Е., Гунько Е., Абрамчук С., Кощеев В., Бейнар В., Мяделец И., Колесник С., Крэньть Е., Шикшнян Э., Куликова И., Куликов А., Синкевич И., Полицан И., Истенков А., Шкабара Р., Слиж Е., Ковалёнок В., Казачёнок К., Казачёнок Н.

## Сіпуха выгадавала два вывадкі птушанят!

Упершыню для Беларусі сябрамі Заходне-Палескага рэгіянальнага аддзялення АПБ падцверджана другое на год гнездаванне адной з самых рэдкіх соў Беларусі - сіпухі (Tyto alba).

Трэці год запар у наваколлі Брэста паспяхова гадуе птушанят пара сіпух. Іванам Багдановічам і Віктарам Фенчуком за гэты час было акальцавана больш за 10 птушанят.

У тым ліку адно поўнасцю апéранае птушаня было акальцавана сёлета 26.07.07 г.


Фота І.Багдановіча

Якое ж было здзіўленне, калі 03.08.07 г. пры правядзенні праект-нага планавага абсле-двання вядомых месцаў гнездавання сінантроп-ных соў у Брэсцкім раёне, мы "зазірнулі ў госці" і да нашых добрых знаёмых. У трубе (менавіта яна колькі год з'яўляецца ўтульным домам для сіпух) плотненька тулі-лíся адзін да аднаго роз-наўзроставыя пушысцікі. У пачатку жніўня мы акальцавалі ажно сем(!) савянятаў. Сіламі аддзялення, разам з Брэсцкай абласной экалагічнай арганізацыяй "Зялёны край", дзякуючы фінансавай падтрымцы Праграмы малых грантаў ГЭФ рэалізуецца праект "Прырода аб'ядноўвае людзей". У рамках праекту плануецца зрабіць і развесіць некалькі дзесяткаў штучных гнездавых скрынь і для сіпухі. Будзем спадзявацца, што камусьці з акальцаваных берасцейскіх сіпух яны будуць да спадобы, і беларуская папуляцыя гэтага віду соў будзе толькі павялічвацца.

## Першая канферэнцыя Клуба200

12 жніўня 2007 г. адбылася першая канферэнцыя Клуба200 АПБ. Канферэнцыя прайшла ў г. Тураве (Гомельская вобл.) адначасова з летнікам настаўнікаў-сябраў АПБ.

На канферэнцыі былі прапанаваны некаторыя змены і дапаўненні ў Статут Клуба200.

Колькасць сябраў у праўленні была зменшана з 7 да 5. У праўленне Клуба200 былі абраны: Андрэй Абрамчук, Дзьмітры Вінчэўскі, Наталля Карліонава, Дзяніс Кіцель і Павел Пінчук.

Галоўным органам кіравання Клуба200 з'яўляецца канферэнцыя. У перыяд паміж канферэнцыямі кіраўніцтва Клубам ажыццяўляе праўленне. Праўленне выбірае Старшыню, які пры неаб-ходнасці прадстаўляе інтарэсы Клуба.




Эмблемай Клуба абраны самец стэповага луня на фоне бінокля. Аўтар эмблемы - Эла Данцова (Брэст). Усе змены ў Статуце Клуба200 магчыма пабачыць на старонцы Клуба200 на www.ptushki.org

Акрамя гэтага, настаўнікі-сябры АПБ і сябры Клуба200 спачатку вылучылі, а потым абмеркавалі магчымыя прычыны існуючых цяжкасцяў у працы Клуба і сродкі іх пераадолення.

Сямён Левы, Кардынатар Клубу200

# Першыя вынікі міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне практычнай аховы птушак

У сакавіку гэтага года стартаваў новы праект, прысвечаны практычнай ахове птушак "Прырода аб'ядноўвае людзей". Ініцыятарамі і асноўнымі выканаўцамі праекту з'яўляюцца Заходне-Палескае рэгіянальнае аддзяленне АПБ і абласная грамадская экалагічная арганізацыя "Зялёны край". Замежнымі партнёрамі з'яўляюцца польскія грамадскія арганізацыі: Люблінскае арніталагічнае таварыства (LTO), Польскае таварыства аховы птушак (OTOP) і прыродаахоўнае таварыства "Bocian". Праект ажыццяўляецца дзякуючы фінансавай падтрымцы Праграмы малых грантаў ГЭФ.

Асноўная мэта праекту - аб'яднаць сілы грамадскасці па абодва бакі мяжы (Беларусь і Польшча), дзеля вывучэння і аховы сінантроп-ных і лясных відаў соў. Большасць гэтых птушак альбо рэдкія, як касматаногі і вераб'іны сычы, сычсіпель, пугач; альбо вельмі рэдкія - сіпуха і барадатая кугакаўка. Не абмінуў праект у сваёй дзейнасці і звычайныя віды: вушастую саву і шэрую кугакаўку.


Фота А. Абрамчука

Ня гледзячы на тое, што праект пачаўся не так даўно, ужо ёсць пэўныя вынікі, якія даюць надзею на паспяховую яго рэалізацыю.

Крыху больш за месяц пасля развешвання першых штучных скрыняў для лясных відаў соў (касматаногага і вераб'інага сыча), адна з іх аказалася занятай птушкамі. Упершыню для Беларусі касматаногія сычы пасяліліся ў штучнай гнездавой скрыні і паспяхова выгадавалі птушанят. Да гэтага часу ў нашай краіне ўвогуле было знойдзена толькі некалькі гнёздаў гэтага віду. Так, дзякуючы падтрымцы небыякавых да лёсу прыроды людзей, у беларускіх лясах выгадавалася на 4 касматаногіх сыча больш. Можа падацца, што гэта не такі ўжо і поспех, але кожная захаваная асобіна дзікай жывёлы ці расліны павялічвае шанец гэтага віду не знікнуць, выжыць. Дае магчымасць жыць і існаваць побач чалавеку і прыродзе, разам і птушкам і людзям!

Андрэй Абрамчук,
Заходне-Палескае рэгіянальнае аддзяленне АПБ

# За птицами на... катамаранах

Педагоги Шумилинского, Полоцкого, Новопо-лоцкого, Бешенковичского, Городокского районов изучали птиц с ... катамаранов. 14 июня на реке Оболь в Шумилинском районе состоялся сплав. Организатором выступило Шумилинское районное отделение АПБ в рамках проекта «Наблюдение за реками». В нынешнем году спонсорскую помощь проекту оказала также компания «Кока-Кола Бевериджес Белоруссия» и Coalition Clean Baltic. Во время сплава проводились исследования речной долины, выявление локальных экологических проблем и изучение видового состава птиц - индикаторов состояния прибрежных экосистем. Отмечено более 30 видов птиц. Из редких птиц удалось увидеть лишь черного аиста. Проект «Наблюдение за реками», координатором которого является Наталья Поречина, проводится уже второй год.

Руслан Шайкин,
Специалист по экологическому образованию

# Упершыню ў Беларусі поплаўныя луні пазначаны каляровымі кольцамі

Беларусь далучылася да міжнароднай схемы кальцавання поплаўных лунёў (Circus pygargus) каляровымі кольцамі. Каляровыя пластыкавыя кольцы, абавязкова ў дадатак да металічных, даюць магчымасць здалёк прачытаць пазнакі, а таксама па камбінацыі колеру кальца і надпісу адпаведна вызначыць, у якой краіне і калі была акальцавана птушка. Зразумела, што з адпаведнай оптыкай гэта магчыма зрабіць на яшчэ жывой птушцы. Усё гэта вельмі важна не толькі каб больш даведацца аб тэрмінах і шляхах міграцый канкрэтных папуляцый, але і аб іншых момантах жыцця птушак: прыхільнасці іх дадзенай тэрыторыі, часе пачатку гнездавання (= дарослага жыцця), прыхільнасці тых самых птушак да тых самых ці розных гнездавых біятопаў і г.д. З гэтага году з'явілася магчымасць атрымаць больш дадзеных і пра жыццё беларускіх поплаўных лунёў.

Дзякуючы Працоўнай групе па поплаўнаму луню (Нідэрланды) Stichting Werkgroep Grauwe Kiekendief ( www.grauwekiekendief.nl ) Беларусь атрымала не толькі камбінацыю з чорнага кальца і белага надпісу на ім, але і першыя сто каляровых плястыкавых кольцаў! У мінулым годзе да дадзенай схемы ўпершыню далучылася Польшча (аранжавыя кольцы з чорным надпісам), а ў гэтым, акрамя Беларусі, - Славакія.

Акрамя тэхнічнай дапамогі прадстаўнікі Stichting Werkgroep Grauwe Kiekendief: Ben Koks, Aletta Buskool, Erik Visser дапамаглі злавіць дарослую самку поплаўнага луня і першае каляровае кальцо 12 ліпеня атрымала менавіта яна. На сёняшні дзень каляровымі кольцамі акальцавана яшчэ чатыры птушаняты поплаўных лунёў рознага ўзросту.

Дзьмітры Вінчэўскі,


Фота Г. Гулеўскага



## Владимиру Афанасьевичу Дацкевичу - 80 лет!

Год 2007 для АПБ знаменателен не только юбилейным съездом. Одному из старейших орнитологов Беларуси - Владимиру Афанасьевичу Дацкевичу, Почетному члену АПБ, в этом год, исполняется 80 лет. С этой знаменательной датой мы его поздравляем. Пользуясь случаем, хотели бы рассказать немного о Владимире Афанасьевиче.

Родился Дацкевич В.А. в поселке Беловежа, который ныне находится на польской части Беловежской пущи. Благодаря отцу интерес к природе появился с самого детства. В годы немецкой оккупации (1941-1944) Владимир Афанасьевич работал в мастерской часового мастера. После освобождения Западной Белоруссии вместе с родителями переехал на территорию БССР. С этого года работал в заповеднике, лаборантом зоосектора. В это время проходило деление имущества Беловежской пущи между Польшей и СССР. Делилась в том числе и уцелевшая библиотека. Владимир Дацкевич отстоял многие уникальные книги - дореволюционные издания Карцова, Брема, Гааке и др. В 1947 г. Владимира Афанасьевича призывают в ряды Советской Армии. В 1951 он возвращается в научный отдел Беловежской пущи и после окончания средней школы, без отрыва от производства заканчивает Московский заготовительный техникум по специальности техник-охотовед. В 1960 г. становится инженером охраны фауны. Беловежская пуща начинает набирать обороты как охотничье хозяйство. Дацкевич активно выступил против браконьерского способа охоты “из под фар”, за что и поплатился должностью. В 1962 г. становится помощником лесничего Пашуковского лесничества. Но буквально через несколько дней возвращается в научный отдел. В 1966 г. поступает на биологический факультет Брестского пединститута и становится и.о. заведующего музеем. После окончания института в 1971 г. становится младшим научным сотрудником и заведующим музея. Участвует в создании уникальной серии научно-популярных брошюр «Беловежская пуща». За время работы в качестве заведующего музеем Дацкевич В.А. награжден бронзовой медалью ВДНХ. С 1976 по 1980 занимался изучением тетеревиных птиц. С 1980 по 1985 г. была проведена инвентаризация птиц Беловежской пущи и ее окрестностей. В 1998 г. при поддержке ЗБТАП вышла его работа «Исторический очерк и некоторые итоги орнитологических исследований в Беловежской пуще (1945-1985)», став самой цитируемой работой по птицам Беловежской пущи.

Сегодня Владимир Афанасьевич не остается в стороне от общественной жизни. Его активная позиция и огромный опыт оказывают огромную помощь в деле сохранения Беловежской пущи. Постоянные консультации и огромный архивный материал, собранный за годы работы в Беловежской пуще, остается актуальным и ныне не только у нас Беларуси, но и за рубежом.

Друзья и коллеги.

## АПБ ищет координатора программы по мониторингу обычных птиц.

Работа координатора включает:
- поиск и вовлечение людей в выполнение программы мониторинга,
- проведение семинаров и тренингов для потенциальных участников,
- определнение мониторинговых квадратов и помощь в планировании учетов,
- координирование белорусского компонента с пан-европейской программой мониторинга обычных птиц,
- (при условии достаточной квалификации и желания) обобщение и анализ результатов.

Условия работы:
- сначала на добровольных началах (с полной компенсацией расходов) с последующим переходом на частичную и (в перспективе) полную занятость.

Требования:
- английский язык,
- коммуникабельность,
- наличие домашнего компьютера и доступа к интернету (не важно, если человек живет в Минске),
- возможность посвятить работе 1-2 дня в неделю (меньше - в межсезонье, больше - в сезон)

Координатор мониторинга обычных птиц в Беларуси будет работать в тесном сотрудничестве с партнерскими организациями в Европе, а также с ведущими специалистами в области организации и проведения мониторинга, будет принимать регулярное участие в международных семинарах и тренингах, иметь возможность иностранных стажировок.

Должность координатора подходит как для выпускников,так и для инициативных студентов либо магистрантов, может стать темой их курсовой, дипломной работы и диссертацией. Просьба иметь ввиду, однако, что основной нагрузкой будет организационный компонент (привлечь, обучить, организовать), а не научный (анализ).

Чтобы узнать больше, либо заявить о своём интересе, пожалуйста, свяжитесь с Секретариатом АПБ.




**АПБ з`яўляецца эксклюзіўным партнёрам BirdLife International у Беларусі**

© АПБ, 2007. Інфармацыйны бюлетэнь “Ахова птушак Бацькаўшчыны”
- Распаўсюджваецца бясплатна сярод сяброў АПБ
- Перадрук дазваляецца пры ўмове спасылкі на бюлетэнь “Ахова птушак Бацькаўшчыны”, АПБ
- Галоўны рэдактар: Уладзімір Іваноўскі
- Рэдакцыйная рада: Ігар Бышнёў (адказны рэдактар), Аляксандр Вінчэўскі, Сяргей Зуёнак, Віктар Фенчук, Наталля Парэчына, Руслан Шайкін
- Выданне падрыхтавана пры фінансавай дапамозе RSPB, партнёра BirdLife International у Вялікабрытаніі
- Калі гэты нумар бюлетэня трапіў да Вас выпадкова, а Вы жадаеце атрымліваць яго рэгулярна - далучайцеся да сяброў АПБ
- Калі Вы жадаеце стаць сябрам АПБ, тэлефануйце нам ці прыходзьце да нас: г. Мінск, вул. Макаёнка 8, пак. 313.
- Наш паштовы адрас: а/с 306, Мінск, 220050, Беларусь Тэл./Факс: 017-263 06 13; E-mail: APB@tut.by